# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 9 (15) 7 мая 1992 г.

Цана 80 кап.


## ЗАЯВА

### дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.

Пасля таго, як больш чым 440 тысяч грамадзянаў Беларусі выказаліся за рэферэндум аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і правядзенне новых парламенцкіх выбараў,—пракамуністычная наменклатура пачала шукаць спосабы для захавання ўласных кіруючых пазіцый.

22 красавіка ў Вярхоўным Савеце адбылося даабранне членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі, якая, згодна з існуючым заканадаўствам, павінна кантраляваць і правядзенне рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Усе прапанаваныя кандыдатуры прадстаўлялі кіруючую наменклатуру, у іх вылучэнні не ўдзельнічалі працоўныя калектывы заводаў, калгасаў, навучальных установаў, а таксама грамадскіх арганізацый, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Галасаванне ж па кандыдатурах адбывалася з парушэннем Часовага Рэгламенту Вярхоўнага Савета—дэпутаты нават былі пазбаўлены магчымасці задаць пытанні прэтэндэнтам, высветліць узровень іх кваліфікацыі.

Аднак у выніку сілавога ціску кансерватыўнай парламенцкай большасці ўсе пяць прапанаваных кандыдатаў былі абраныя—у мэтах самазахавання Вярхоўны Савет ізноў пайшоў на парушэнне заканадаўства. Такім чынам, сёння ў складзе Цэнтральнай выбарчай камісіі няма ніводнага прадстаўніка дэмакратычных партый і рухаў, зарэгістраваных на Беларусі.

Мы асуджаем падобныя дзеянні Вярхоўнага Савета і пакідаем за сабой права звярнуцца да сусветнай супольнасці, замежных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый з просьбай накіраваць сваіх назіральнікаў на будучы рэферэндум.

**З. Пазьняк, В. Голубеў, С. Навумчык, І. Германчук, Л. Зданевіч, Л. Баршчэўскі, Л. Дзейка, Г. Сямдзянава, М. Крыжаноўскі, У. Заблоцкі, Ю. Беленькі, Г. Грушавы, А. Трусаў, С. Папкоў, М. Аксаміт, В. Малашка, А. Шут, У. Маркевіч, В. Какоўка, А. Паруль, Л. Тарасенка, Я. Глушкевіч, У. Новік, У. Грыбанаў, У. Станкевіч, В. Даўгалёў, В. Галубовіч, Л. Звераў, С. Бабачонак, С. Антончык, Я. Цумараў, В. Алампіеў, С. Слабчанка, П. Холад.**

## ...Са слязамі на вачах

**Першамай, узаконены, і без прымусу, быў нешматлюдным. Два мітынгі, што планавалі як асобныя (абласны Савет прафсаюзаў і рух за сацыяльную справядлівасць разам з падпольнай ПКБ меркавалі незалежна абараняць рабочых), аб'ядналіся ў адзін, чалавек 200 ці крыху больш. Ліў дождж, пад парасонамі цясніліся былыя і новыя партыйцы, прадстаўнікі гарадского чыноўніцтва, ветэраны. Рабочых у працэнтных адносінах было яшчэ менш, чым на агульнагарадскім сходзе па стварэнню іх жа руху.**

Адкрыў мітынг старшыня абласнога Савета прафсаюзаў **сп. Роганаў**. Ён запэўніў, што «прафсаюзы будуць дабівацца паляпшэння сацыяльнай абароны працоўных і патрабаваць гэтага ж ад урада».

Затым слова ўзяў прадстаўнік ВА «Маналіт», які пераконваў, што «калі мы ўсе станем прадпрымальнікамі, значыць, жулікамі, то хто будзе вырошчваць хлеб і вырабляць тавары прамысловасці? Таму, заклікаў выступаючы, трэба ствараць саветы працоўных, узяць усё пад рабочы кантроль, спытаць па ўсіх правілах з тых, хто ў Вярхоўным Савеце штампуе законы аб прыватызацыі ды суверэнітэтах. Калі і праводзіць рэферэндум, то толькі па пытанню, у якой дзяржаве мы жывём, па праекту Канстытуцыі. Нас падманулі, з нашай думкай не лічацца».

Адкрыў мітынг старшыня абцы выступіў адзін з тых, хто ў Вярхоўным Савеце «штампуе законы аб прыватызацыі і суверэнітэтах». Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня гарсавета **М. Федарчук** адказаў, што «сёння мы будуем невядома якое грамадства, а хутчэй, гібрыд сацыялізма і капіталізма».

**А. Гушчанка** з саўгаса «Рудакова» папрасіў хаця б маральна падтрымаць працаўнікоў сельскай гаспадаркі.

Настаўніца СШ № 37 з горыччу гаварыла аб бядотным становішчы педагогаў, а актыўная прамоўца, прадзільшчыца **Г. Харытонава** распавядала аб тым, як падрыхтавала выступленне, вартае дысертацыі, ды збілі яе з накірунку трыццацігадовыя новаяўленыя буржуа з ІТР, якія напярэдадні абмяркоўвалі на прыпынку, ці ісці на мітынг паглядзець, колькі засталося камунякоў.

Яна заклікала М. Федарчука быць больш зубастым на сесіях, разнасіла дэмакратаў і, барані Божа, не дапускала думкі аб іх адстаўцы ў Вярхоўным Савеце. Потым Харытонава зачытала рэзалюцыю мясцовага рабочага руху, што прымалі ў клубе завода імя Кірава.

Уразіла выступленне гаротнай жанчыны, якая плакала ад свайго цяжкога становішча, гаварыла, што «савецкая ўлада ёй даражэй за родную маці», патрабавала вярнуць камуністаў і Савецкі Саюз.

А яны, камуністы, толькі сёння з уладавых структур стаялі побач і паглядалі на мокры натоўп разам з некалькімі флагамі былых СССР і БССР ды адзінока ўзнятым на чырвонай дашчэчцы профілем Ленінскай галавы.

...Плакала дажджом прырода, і таксама—хацелася плакаць. Услед хуткацечнаму мітынгу дулі ў трубы мокрыя салдацікі-аркестранты. З рэпрадуктараў чулася песня на словы Ніла Гілевіча: «Я здарожыўся вельмі, я хвілінку пасплю». Ці не аб рабочым людзе гэта...?

## УЧОРА ЗНОЎ АД ІМЕНІ НАРОДА

**Праўда, было ўсё ў сярэдзіне мінулага месяца, калі ў «Віцебскім рабочым» выступіла ініцыятыўная група ў дзевяць чалавек з заклікам-прапановай стварыць у горадзе рабочы рух «па абароне сваіх інтарэсаў, аднаўлення ўлады людзей працы, забеспячэння савецкім людзям дастойнага жыцця». З гэтай мэтай і адбыўся агульнагарадскі сход (!) у клубе завода імя Кірава, на якім прысутнічала ўсяго каля 60 чалавек. У тым ліку: 6 журналістаў, бадай уся кафедра марксісцка-ленінскай філасофіі медінстытута, лідэры падпольных камуністычных структур, ды 20—25 рабочых пенсійнага або прадпенсійнага ўзросту.**

**На павестцы дня было і абмеркаванне праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, выказваліся адносіны да рэферэндуму.**

Не крыўдзіцеся, таварышы рабочыя. Вам цяжка жыць і вы вінавацце ва ўсім улады, дэмакратаў, якія «заганяюць» вас у капіталізм, вы шукаеце выйсце. Але ж якім чынам, калі вашы сённяшнія новаяўленыя павадыры і вы не разумееце адзін аднаго, што ваша, змененая з КПБ на ПКБ партыя, анічога, як і раней, вам не падказала. Калі і накіроўвала, то толькі на тое, каб не дапусціць на чарговым рэферэндуме адстаўкі тых, хто давёў вас да такога жыцця. Паслухайце самі сябе з дыктафоннага запісу і паглядзіце на ўсё збоку.

**Г. Харытонава, прадзільшчыца дывановага камбіната.**

Я па ўсіх прадпрыемствах сама разаслала запрашэнні, але, як бачыце, першы блін комам...

Уся прэса, пастаўлена сёння на службу нашай айчыннай буржуазіі і айчыннай мафіі. Перабудова пачалася як ідыятызм вышэйшай ступені, яна паступова перарасла ў эпахальнае злачынства. Усе сталі на шлях здрады. Няўжо мы не можам зразумець, што за сённяшнім сапраўдным мы губляем наша светлае мінулае. Гарбачоў разбурыў нашу Радзіму ўсю да Ціхага акіяна. Тысячы сем'яў паставіў на мяжу выжывання. Пачалася трэцяя міравая, хаця і бяскроўная вайна. Кіруючая вярхушка партыі захацела жыць так, як пануючы клас на Захадзе. За 15—20 мінут інтэрв'ю або лекцыі ў Ізраіле Шэварнадзе плоцяць дзесяткі тысяч долараў, і сёння гэты чалавек стаў багацейшым чалавекам Грузіі. Вялікі перабудоўшчык Гарбачоў паклаў кругленькую суму ў Швейцарскі банк, і ніхто не ведае, як яна сёння папаўняецца. Дачка Алы Пугачовай едзе раджаць за мяжу, што яна тут не магла?..

Нашы дэпутаты забыліся аб сваіх абавязках. Я галасавала за С. Навумчыка, а сёння хацелася б яго ўбачыць і сказаць, што сапраўднага падонка падпіхнула сваімі рукамі ў Вярхоўны Савет. Прымаюць нашы дэпутаты законы аб прадпрымальніцтве, прыватызацыі, уласнасці. А на якія сродкі выкупяць яе, бо я 34 гады адпрацавала на адных граматах і ордэнах. Дык як жа можна, што выкупляюць кватэры? Сёння не я ў гонары з маімі рукамі, што называлі залатымі, а нейкія бізнесмены, якія стаяць начале ўрада. Іх трэба проста па-рабочаму граміць.

**Карэспандэнт.** З выступлення было бачна, што рабочая Харытонава аперыруе многімі фактамі, якія пачэрпнула з прэсы, прычым не падпольнай. Значыць, прэса і на яе службе.

Мусіць не так дрэнна жывуць пры дзікім капіталізме ў Ізраіле, дзе за 15—20 мінут плоцяць дзесяткі тысяч долараў. Цікава толькі, чаму іх простыя рабочыя не прасіліся да нас у наша светлае мінулае, а эмігрыравалі больш ад нас, не жадалі працаваць толькі за граматы.

Трэба быць Алай Пугачовай, каб пасылаць дачку раджаць за мяжу. Ну што зробіш, калі не ўсіх слухаюць, як яё. Не плаціць жа нам за карканне. Калі ёсць залатыя рукі, мусіць, і голас ёсць адпаведны.

Выхад па Харытонавай: па-рабочаму граміць усіх падонкаў-дэпутатаў, у тым ліку, мусіць, і дачку Алы Пугачовай. Але ж чаму, паважаная рабочая, вам катэгарычна не раяць патрабаваць адстаўкі ўрада праз рэферэндум вашы натхніцелі, што былі ў клубе? Задумайцеся! Пэўна, ім на руку прыхватызацыя ў горадзе, а інакш яны падказалі б вам, хто з былых і цяперашніх выкупіў даўно за бясцэнак кватэры, хто стаў бізнесменам, а хто на падыходзе.

Не трэба граміць, выступайце за перавыбары, ды прапануйце, напрыклад, Лосіча ці Янчука. Яны вам вернуць светлае мінулае.

А калі і пойдзеце граміць, то выбірайце каго-небудзь бліжэй, чым Гарбачоў ці Шэварнадзе. У Віцебску знойдзеце, нават сярод сваіх паплечнікаў.

**У. Самавараў, дзяжурны інжынер ВЦ станцыі «Віцебск».**

Сваімі вачамі вы бачыце пустыя полкі. Што мяне здзіўляе? Наш урад. Ён даўно не нясе дабро народу. Я пісаў на тэлебачанне, што ў ім 30% праўды. Ідзе абалваньванне рабочых. Мне сорамна, што такое кіраў-

(Заканчэнне на 5-й стар.).



Этот снимок военный корреспондент сделал на улице города в день освобождения Витебска от фашистских оккупантов.

Жительница говорит пленным что-то резкое, обидное. Мальчишкам смешно и интересно. Пленные вояки для них не в диковинку. Насмотрелись они на захватчиков в годы войны. И вряд ли ребята в эти минуты еще осознают, что война для города окончена.

А о чем думаем мы, глядя на этот снимок? Уже давно могли бы мы — победители жить как люди.

...Величественен был советский человек! Но и смешон: так и не смог сам для себя организовать по-людски свою жизнь.

Н. ДОРЕНСКИХ.

## Дзякуй, «мірная ініцыятыва»!

**Недзе з год таму заходнеберлінская суполка «Мірная ініцыятыва» перадала мне апарат радыёкантролю «Бекерэль манітор LB 200». Прыбор быў перададзены дзеля ўтварэньня ў Віцебску незалежнага пункту дазіметрычнага кантролю.**

На жаль Віцебскія эколагі не пацягнулі гэтую справу, як не пацягнулі яе і гарадскія ўлады, хаця апошнія неаднаразова адзначалі ў сваіх пастановах неабходнасць стварэньня радыёметрычнай лабараторыі. Старшыня аблкампрыроды Б. Плавінскі ўвогуле адмовіў у выдзяленьні сродкаў з экалагічнага фонду на гэтую справу.

І ўсё ж апарат прыносіў карысць. Палову года ім карыстаўся Бешанковіцкі аддзел Беларускага экалагічнага Саюза. Потым на працягу двух месяцаў я рабіў замеры прадуктаў прама падчас свайго лекарскага прыёму ў паліклініцы.

Напрыканцы мінулага, 1991 года, прыбор «Бекерэль манітор» перададзены ў толькі што адчынены Віцебскі інстытут радыяцыйнай медыцыны.

Міхась ПАУЛАУ.

## ШТО АБ НАС ПІШУЦЬ!

Брытанскі часопіс «Голас часу» (№ 3 за 1992 г.) у артыкуле «Іязафат Кунцэвіч і яго аднадумцы» палемізуе з гістарычным нарысам М. Паўлава («Выбар» ад 6-га лістапада мінулага года). У гэтым выданні з'явіўся і артыкул з «Выбара» (№ 4, 1992 г.) А. Каралёвай «Такія дэпутаты нам не патрэбны».

Ю. ТУТЭЙШЫ.

### ПРИНОШУ ИЗВИНЕНИЯ

В вашей газете № 5 от 4 декабря 1991 года я опубликовал материал «Они были первыми».

В нём сказано о приватизации жилья Е. И. Радецким. На самом деле этот факт не соответствует действительности.

В связи с этим приношу свои извинения Евгению Ивановичу Радецкому и редакции газеты.

**Б. МАТВЕЕВ, народный депутат облсовета.**

*Письма читателей*

## Спасибо, но не всем

Положение пенсионеров и инвалидов в республике катастрофическое. Сказать, что в вопросе социальной защиты этого слоя населения ничего не делается, это неправда. Делается, но очень медленно.

Многие общественные организации и фонды оказывают посильную помощь. Большую благодарность от себя лично хотелось бы выразить руководству клуба избирателей «За демократические выборы», которое неустанно борется за интересы инвалидов клуба. И вот результат. Получены благотворительные посылки из Германии. Огромное спасибо всем, кто принимал участие в оказании помощи малоимущим. Не остались в стороне и служители церкви. Отец Николай, Матушка Нина и другие служители сделали всё возможное, чтобы многие малоимущие получили приятные пасхальные «благословения». К сожалению, предприятия, на которых трудились многие пенсионеры, как мне кажется, остались в стороне от этого вопроса. Вот личный пример... Два года, как я инвалид II группы, не работаю на ВТЗ, где работал не один год, но никто обо мне не вспомнил. Жалкое существование инвалидов и пенсионеров не делает чести нашим властям, но выход из положения должен быть найден, иначе придётся призывать на помощь ООН или «дядю Сэма», чтобы взял на своё попечение простых смертных.

**М. ЖУРАВЛЕВ, инвалид II группы, член клуба избирателей «За демократические выборы».**

г. Витебск.

*Наша антиреклама*

# ПОЛУТОВАРИЩИ—ПОЛУГОСПОДАМ

Сколько рублей, уважаемый господин бездомный, на твой взгляд, надо отвалить за особняк с вечнозеленой елью у гаража? А за этот, с двухбаллонной газовой установкой? (См. снимки).

Давай рассуждать. Если цена ночной вазы 50 рублей, подушки 400, раскладушки 1000, секции «Ипуть» 12000, то...

Не торопись с выводами, уважаемый товарищ безработный. Цена вечнозеленого дерева вместе с особняком плевая 11252 рубля. А двухбаллонная газовая установка плюс огромный дом стоят всего 17089 рублей. Где находятся эти даровые жилища? В прославленном пребыванием номенклатурных светил городе Браславе.

Э-э, ты куда засобирался, господин бездомный офицер. Пожалуйста, успокойся, прими валерьянку и засунь свой рюкзак с деньгами назад, под раскладушку. Эти дома уже выкуплены. Первый начальником Браславской райсельхозхимии В. Тиханским, второй—директором хлебозавода В. Самулем. Не упустили последний шанс и другие видные деятели браславщины. Тот же В. Тиханский уже заруливает в гараж под особняком «Волгу», приобретенную за 4384 рубля (цена двух унитазов). Начальник МПМК-42 Б. Чемеринский уплатил за ведомственный дом около 8000 рублей, начальник ПМК-44 К. Сапель—9420 рублей, начальник управления капитального строительства райисполкома В. Аниськов—26879.

Выкупили служебные машины начальник ГРПУ Г. Михневич, председатель колхоза «Прогресс» Г. Франгу, директор РПО ЖКХ А. Киримов.

Притом, выкуплена вся эта недвижимость, и движущаяся в том числе, как полагают названные руководители, на абсолютно законных основаниях.

А теперь, уважаемые и господа бездомные, и товарищи, все еще приносящие дары—цветы Ленину, и себя много уважающие некоторые народные депутаты Верховного Совета республики, попробуем вместе ответить на вопрос: кто выдал эти «законные основания» на приватизацию за бесценок того, что создано народным трудом и, главное, не переход к рыночным отношениям не оказывает принципиального влияния. Это ведь даже не возврат владений бывшим хозяевам. Это открытый узаконенный грабеж перед оценкой и разделом того, что создано трудом всего народа республики.

Кто выдумал такую необходимость в первую очередь приватизировать жилье, служебные автомашины и сельхозтехнику начальствующими особами? Пока лукавые сторонники коллективного хозяйства убеждают народ: «без колхозов пропадем», властью наделенные списывают сельхозтехнику (при этом поплакивая, что ее не хватает), разумеется, за гроши, «на законных основаниях» выкупают сами или награждают ею ближних. Но самое ужасное в происходящем то, что выкупают ее как раз не те, кто будет в скором времени сам работать на земле. Выкупает «элита» деревни, которая после приватизации земли вынудит купить эту же технику истинного труженника, содрав с него кругленькую сумму, тем самым закабалив крестьянина на всю жизнь. Забежав наперед событиям, можно услышать и хихикание «элиты» уже потом: «Хотел быть свободным крестьянином, нас не слушал, вот и получай свое».

Понятно, спеша ухватить пожирнее кусок, сегодня никто на эти вопросы отвечать не будет. Но время заставит это сделать. Нашим бы уже полугосподам, но еще и полутоварищам не в Китай за безэффективным средством от клопов ездить, а подскочить бы в Эстонию или Латвию, уму-разуму поучиться на чужих ошибках. Кажется, там уже гражданская напряженка из-за подобной прихватизации налицо. От нее—один шаг к гражданскому конфликту. Можно и еще ближе подъехать—Глубокского района в совхоз «Озерцы». По всему району люди из уст в уста рассказывают о нескольких «Жигулях» директора совхоза, о комбайне и другой технике, урваной для себя и детей, и, главное, с восхищением говорят о совхозниках, которые себя в обиду не дали.

И в самом деле, нельзя же народ за дурака держать больше 74 лет. Ведь взбунтоваться может. И память бока кому следует.

П. ЛИСТОПАД.





# Трагедия в стиле ОМОН

***В ночь с 24 на 25 января в дежурной части Октябрьского РОВД г. Витебска от полученных ударов резиновыми палками, которые применили милиционеры роты специального назначения Витебского областного УВД, скончался 18-летний студент местного медицинского института Александр Баранов. Гибель Саши всколыхнула весь город. За гробом шли тысячи витебчан. Разыгравшаяся трагедия вызвала далеко не лестные высказывания в адрес витебской милиции.***

ПОД требованием провести расследование гибели своего товарища подписались 245 студентов. Оно было направлено прокурору Октябрьского района г. Витебска. 25 января «по факту гибели Баранова А. А. прокуратура... возбудила уголовное дело по признакам преступления, предусмотренного ст. 167 ч. 2 УК РБ (превышение власти или служебных полномочий)».

Я приехал первый раз в командировку в Витебск через две недели после ЧП. К этому времени происшедшее успело обрасти домыслами и слухами, а расследование по-настоящему только начиналось. Дело было передано из районной и областной прокуратур Александру Рассолько, следователю по особо важным делам при Генеральном прокуроре РБ. И взято на контроль народными депутатами и руководством республики. Вторая моя командировка была ровно через месяц...

## А ночь такая тихая была

Вечер в филиале ресторана «Аврора» прошел нормально. Накануне Саша в институте сдал последний экзамен—сессия позади. Назавтра он должен был уехать в Москву—начинались каникулы. Вышли из ресторана после одиннадцати вечера. Решили поймать такси. Хотели все вместе разъехаться по домам. Но таксист отказался везти шестерых. Повздорили с ним. Однако из машины вылезли и двинулись своей дорогой. По домам. Еще ничто не предвещало беды. Но тут, спустя несколько минут, появилась милицейская машина вневедомственной охраны. А неподалеку патрулировал наряд охраны спецназовцев.

## Спецназовцы

Их было двое: Виктор Багрец и Константин Лускин. Время дежурства подходило к концу.

*Виктор Багрец:*

—Наш маршрут—площадь Свободы, площадь Ленина и прилегающая к ним территория. Дежурство проходило спокойно. Все произошло где-то в начале первого часа ночи. Не доходя 25—30 метров до ресторана «Аврора», мы заметили, что на другой стороне улицы возле остановки транспорта стоит такси и группа людей. Слышались мат, крики. Такси резко подъехало вперед, где стояла машина вневедомственной охраны. И мы в этот момент перешли улицу, чтобы узнать, что происходит. Группа юношей или подростков скрылась в подворотню... Я бросился в погоню первым. Настиг убегающего. Хотел схватить за правое плечо. Он развернулся и нанес мне правой рукой удар под левый глаз. Я ударил его два раза палкой по спине. Тут подбежал мой напарник, подъехала милицейская машина. Он крикнул: «За что меня взяли?» Скользил, размахивал руками, не хотел садиться в машину. Для прекращения противоправных действий и за неповиновение законным требованиям работников милиции Лускиным была применена один раз резиновая палка. Удар нанесился в районе поясницы с левой стороны сзади. Всего было три удара палкой.

Когда мы садили Баранова в машину, он был в сознании. А в ней как бы провалился между сиденьями. Мы сели в такси и приехали вслед в Октябрьский РОВД. Там Баранов уже не мог самостоятельно выйти из машины. Его вынесли и положили в дежурной части. Я сел рапорт писать. Написал верхнюю «шапку». Прошло 5—10 минут. Говорю: «Костя, посмотри, может, с парнем что случилось?» Он отвечает: «Плохо пульс прощупывается». Кто-то из дежурной части сказал: «Уже труп». Я сразу вызвал свои машину и автобус. Скорая приехала через 20—25 минут. Вызывали ее 2—3 раза...

## Друзья

Олег Андрианов и Юрий Арестов запомнят ту ночь на всю жизнь.

—Когда все сели в такси,—говорили мне ребята,—водитель отказался везти, несмотря на то, что мы обещали ему хорошо заплатить. Возникла перебранка. Он пригрозил вызвать милицию. Ответили: «Вызывай!» Но из машины вылезли. И пошли по парам, разговаривая, на уличный переход. В адрес таксиста никаких угроз физической расправы вообще не было.

Когда кто-то крикнул: «Милиция!» Саша побежал налево, а Миронов с женой направо.

—Я сказал Юре,—отмечает Олег,—чего нам бежать? Мы ничего не совершали. Подъехала машина, нас в нее и посадили. Через 2—3 минуты машина остановилась. Открылась задняя дверь. Милиционеры держали на руках какого-то человека. Он «висел». Мы тогда еще подумали: пьяного,наверное, подобрали на дороге. Парень был без куртки, свитер задран. Голова опущена. Не двигался. Без признаков жизни. Мы даже не подумали, что это Баранов. Только что был нормальный человек, а тут...

—Если бы Саша был в куртке,—продолжает Юра,—я бы его сразу узнал. Только в дежурной части после долгого при свете рассматривания я узнал Сашу...

Где-то через два часа после случившегося нас освидетельствовали на алкоголь,—рассказывают, дополняя друг друга, ребята.—Признали легкую степень опьянения. Кстати, самое главное: мы вместе со спецназовцами проходили экспертизу. У Багреца никакого синяка не было, мы очень хорошо это помним, а он утверждает, что был. Саша ведь убегал от милиции, зачем он будет лезть на спецназ? Это же смешно. Он никогда в жизни ни с кем не задирался. А тут—спецназовцы! Мы сами хотели бы знать, как его били.

Еще. Куртка Сашина появилась после того, как зафиксировали смерть. Ее кто-то передал дежурному.

## Саша

Он был любимчиком в семье. Ласковый такой мальчишка, безобидный.

—Это была просто девочка в брюках,—Александру Петровичу Баранову, отцу Саши, больно говорить в прошедшем времени.—Если бы у меня родилось 10 сыновей и все походили на Сашу, я бы гордился ими. Как он мог броситься на спецназовца? Не верю я. Они просто убили его.

Однокурсникам Саша нравился. Веселый, интересный человек. Знал массу историй и любил их рассказывать. Он любил учиться. Хотел стать хорошим врачом.

Друг Саши Сергей Журавлев рассказывает, что как-то они вдвоем наблюдали за действиями спецназа. Саша заметил: «Не хотелось бы мне с ними столкнуться». Может быть, поэтому Саша побежал от милиции. Боялся насилия? Сработал инстинкт самосохранения?..

## ...Истина где-то рядом

Наталья Лысак, врач «Скорой», уже только констатировала смерть. Все признаки—расширенные зрачки, посинение ногтей и т. п.—говорили о том, что она наступила минут за 10 до приезда врача. Дежурный подтвердил, что в таком состоянии Баранова привезли. Та же Лысак видела, что Саша лежал без куртки.

Итак, что же на самом деле произошло в ту ночь между Александром Барановым и спецназовцами? Основополагающими документами, отвечающими на этот вопрос, являются результаты вскрытия трупа и заключительный акт судебно-медицинской экспертизы.

Вскрывали труп и подписывали заключение судмедэкспертизы опытные эксперты: Анатолий Вальшонок, Сергей Сироткин и Михаил Яблонский. Присутствовали при вскрытии: заместитель прокурора Октябрьского района Владимир Таранда и начальник медслужбы УВД Юрий Горянский.

Эксперты определили, что было нанесено четыре удара резиновой палкой поперек тела с наклоном. Удары наносились в статическом положении (то есть Саша лежал—авт.) в короткий промежуток времени, исчисляемый несколькими минутами (возможно 1,5—2 минуты—авт.). Удары повлекли изменение в органах, отслоение аорты, ушиб сердца, кровоизлияние в поджелудочную железу, обширное кровоизлияние в ткани легких.

Я интересовался у медиков, можно ли было спасти каким-то образом Сашу? Мне ответили, что практически каждый удар мог оказаться несовместим с жизнью.

Кстати, нашелся и свидетель, который видел, как били Баранова. Борис Хамайда, председатель городского клуба избирателей «За демократические выборы», юрист по образованию, рассказывает:

—Есть девушка, которая видела, как парня били ногами. Моя встреча с ней состоялась 11 февраля. Она подтвердила, что действительно видела, как Баранова дважды ударили дубинкой, еще один раз, когда он уже лежал, его ударили ногой. Куртка на нем в это время еще была. Сама девушка находилась от места происшествия где-то на расстоянии 30 метров. А на очной ставке у следователя девушка эта вдруг начала отказываться от своих слов. Причем тактику избрала такую: мол, приходил Хамайда, мы разговаривали, но ничего подобного я ему не говорила. А что говорила? Заявила, что ничего не видела, ничего не знает.

Я тоже встречался с Натальей Селюк. Она отрицает какую-либо свою причастность к событию. И все-таки есть основания предположить, Селюк кое-что важное видела. К тому же Хамайда не намерен отступать. Он будет давать показания в суде.

А теперь коснемся других «белых пятен» трагедии. Если джинсы, свитер Баранова выпачканы так, как будто о них вытерли ноги, то куртка новехонька, словно с витрины. Кстати, сами спецназовцы расходятся в показаниях по поводу куртки. Лускин утверждает, что в куртке Сашу и садили в машину и выносили. Багрец показывает, что садили—в куртке, выносили—без. Так куда же и когда она пропадала?

Второй момент. Мог ли Александр Баранов оказать достойное сопротивление спецназовцам и посадить Багрецу «фонарь»? Саша весил 63 килограмма, имел рост 173 сантиметра. Спортом не занимался. У Багреца 110 кг веса и 190 см—рост. У Лускина еще больше и вес, и рост. Оба в хорошей физической форме, тренированы. Неужели нельзя было обойтись без дубинок?

Эксперт Владимир Жолнеровский, освидетельствовавший около шести утра спецназовца, сказал, что синяк у Багреца был величиной с большую фасоль, но легкий, без расстройств. Он мог появиться после легкого ушиба через час. Багреца сопровождала на экспетизу группа товарищей по спецназу.

А заместитель прокурора Владимир Таранда сообщил мне, что синяка не видел, но припухлость, по его словам, была.

## Будет ли суд?

Этот вопрос в Витебске волнует многих. Окончательный ответ должно дать следствие. Негативное же отношение к роте специального назначения УВД сформировалось не только по причине гибели студента. Мне поведали массу других случаев, когда «отличался» спецназ. Мой коллега, корреспондент газеты «Витебский курьер» Владимир Гущенко, например, «попробовал» дубинки в кафе «Русь» в декабре 1991 года. Якобы искали оружие.

Леонид же Якубовский, заведующий отделом экспертизы потерпевших и других лиц, дополнил информацию о спецназе:

—Не один раз хотел пригласить журналистов сфотографировать полосатые спины. В последнее время часто обращались к нам избитые спецназовцами граждане. Все акты экспертиз у нас есть. И беременная получила свою «порцию», и культуристов отлупили...

Не слишком ли грубо в таком случае ведут себя спецназовцы, раздавая удары резиновыми палками, как говорится, направо и налево? Оказывается, нет! По действующему Закону о милиции «вид специального средства и интенсивность его применения определяется работником милиции самостоятельно, исходя из складывающейся обстановки, характера правонарушения и личности правонарушителя».

Начальник Витебского областного УВД генерал Алексей Клещенок твердо заявил: «Наши ребята не убийцы». Да, они не убивали специально. Но Саши-то нет. Впрочем, только суд может окончательно решить: виновны они или нет.

«Я шел в роту спецназа, чтобы людям помогать. Сейчас у нас люди чувствуют безнаказанность»,—заявил во время разговора Виктор Багрец. Но можно ли добиваться самой благородной цели любыми средствами, с превышением своих полномочий. Вот в чем, думается, главный вопрос.

**Дмитрий МАЛИНОВСКИЙ,**
**специальный корреспондент «Р».**
г. Витебск
(«Республика», 11 апреля 1992 г.).

От редакции

**Мы не случайно перепечатываем этот материал из газеты «Республика». Общественность города попрежнему продолжает волновать трагическая гибель от спецназовских дубинок студента II курса медицинского института Александра Баранова.**

**Совсем недавно редакции стало известно, что один из виновников смерти Баранова Багрец и ранее имел привычку махать резиновой палкой. Так, в декабре 1991 года в ресторане «Ветразь» он нанес девушке удар дубинкой. Девушка была в белой одежде.**

**Очевидно, следователю по делу убийства Баранова было бы интересно найти эту девушку и с ней побеседовать.**

**Мы обращаемся с просьбой ко всем гражданам, кто пострадал от спецназо-амоновских дубинок и кому что-либо известно об указанных и других фактах, сообщить об этом в редакцию (ул. Гоголя, 17, ком. 34, тел. 37-35-06).**

*Требуется проверка*

# ПРОПАЛО ДЕЛО

Мы уже привыкли, что некоторые наши граждане ежедневно что-нибудь да теряют. Кто кошелёк с деньгами, кто паспорт, кто удостоверение участника войны, а изрядно зазевавшийся—печать организации. Каждый из нас день ото дня теряет свои денежные вклады, благодаря инфляционным способностям нашей власти.

Не так давно узнал, что в одном солидном государственном учреждении пропало наблюдательное производство по одному уголовному делу. Однако все по порядку.

В редакцию пришел читатель и начал заинтересованно рассказывать об одном из руководителей Докшицкого района—местном комбинаторе (как он выразился), который не прочь был поживиться за государственный счет. Правда, в конце-концов был схвачен за руку следственными органами области. Однако, суда удалось избежать. Имел надежное прикрытие—депутатский мандат.

Интерес собеседника передался мне. Захотелось полистать уголовное дело. Поближе познакомиться с методами районного комбинатора. Но именно на этом пути меня поджидали один за другим сюрпризы.

Как выяснилось, уголовное дело находится в Гродненском областном суде. Там и выносилось определение о его прекращении. Но поскольку надзор за расследованием осуществляла областная прокуратура и здесь утверждалось обвинительное заключение в 1990 году,—прямым ходом направился туда.

В прокуратуре меня ожидал холодный душ. Не смогли найти наблюдательное производство. Где оно? Никто не знает. Это же не иголка в стогу сена. Вспомнили, что раньше искали, найти не могли. Пропало дело. Испарилось. Ну и дела. Осталось почесать затылок.

Но как говорят в народе, охота пуще неволи. Любопытство разгорелось. И вот передо мной копия обвинительного заключения, на составление которого затратил много сил и энергии следователь УВД Витебского облисполкома капитан милиции Н. Быков.

На основании этого документа бывший первый заместитель председателя Докшицкого райисполкома, председатель Докшицкого РАПО Шендо Геннадий Владимирович обвиняется в совершении преступлений, предусмотренных ст. 166 ч. I УК (злоупотребление служебным положением), ст. 91—I УК (хищение государственного и общественного имущества в особо крупных размерах) и ст. 171 УК Республики Беларусь (должностной подлог). Целый букет преступлений.

Общая сумма ущерба государственного и общественного имущества за период 1986—1989 г.г. составила 12311 руб. 95 копеек.

Когда я ознакомился с обвинительным заключением, с фактами приведенными в нем, списком лиц, затронутых этим делом, у меня возникли некоторые вопросы:

1. Почему дело рассматривалось в Гродненском областном суде?

2. Куда запропастилось наблюдательное производство Витебской областной прокуратуры?

3. Обращалось ли следствие в районный Совет народных депутатов за получением согласия на привлечение к уголовной ответственности депутата Шендо? Если да и получен отказ, то было ли обращение по данному вопросу в вышестоящий Совет?.

4. Если не было положительного ответа, то почему дело не прекращено на стадии предварительного расследования? Ведь это аксиома.

5. Если Шендо все-таки совершил преступление, то почему он продолжает работать на руководящей должности?

Вопросы, вопросы, вопросы... На часть из них ответы может дать уголовное дело № 2889/80. Редакция готова послать в командировку своего корреспондента, поскольку данное дело может представлять общественный интерес.

**Б. ХАМАЙДА.**

# КАРЦЕЧЧУ ПА СВАІХ?

## або Хто ў сваім воку бервяна не бачыць

З аналагічным загалоўкам, толькі без пытальнага знака ў «Віцебскім рабочым» № 58 з'явіўся артыкул сімпатычнага мне, хоць і не вельмі знаёмага П. Міхайлава, які абвініў «Выбар» у подласці і мярзотнасці за тое, што «выдзяляецца непрыхаванай непачцівасцю да тых, хто займае інакшую пазіцыю», за «крытычную пальбу ў бок сваіх жа (?) таварышаў па рамяству», і захацелася мне, узяўшы цудоўныя словы аўтара за эпіграф «Любое выданне павінна быць гранічна сумленным і адказным перад сваім чытачом», запытацца: а хто паліць па сваіх?

**Хто залемантаваў** у «Віцебскім рабочым» пра «Выбар» адразу ж праз некалькі нумароў яго выхаду прыкладна такімі словамі: «інвалід (былы дружыннік) звярнуўся да дэмакратычных журналістаў за дапамогай, але што ім да чалавека з камуністычнымі перакананнямі?». Я потым тлумачыла гэтаму даволі паважанаму мной журналісту, што з інваліда зрабілі героя, што мы паднялі справы шматгадовай даўнасці. Але укус быў зроблены. Мы змаўчалі.

**Хто ўдарыў** карцеччу, калі журналіст А. Пукшанскі паразважаў на нашых старонках аб лёсе шматтыражак, аб сваім лёсе? Ці не «Віцебскі рабочы» напісаў, што «Выбару» хочацца пахаваць усе шматтыражкі? Але, шаноўныя, не ад жадання «Выбара» закрываюцца маленькія газеты ды і не толькі.

**Якому выданню** належаць гэтыя словы: «цяпер Цвіка «пераканаsuccessfully» дэмакрат, устанаўлівае сувязі з грашовымі дзялкамі заходніх краін» (№ 23). Ці не ведалі вы, што тут пахне судовым разбірацельствам, ад чаго потым спалохаўся аўтар В. Цярэшчанка? І хто не даў па яго публікацыі выступіць маёру Шайтару, які потым звярнуўся да нас. Плюралісты?

**Каму належыць** аплёўванне свайго ж калегі—журналіста С. Буткевіча, абвінавачанага ў паклёпе на дэпутата В. Афанасьева. Нават судом пагражалася. Ну і дзе той суд? Ён проста не існуе, а В. Афанасьеў **сапраўды пагнаны з арміі без права атрымання пенсіі за здзекі над салдатамі і за іншыя справы.** Можна, калі прыйдзе час, апублікаваць дакументы за подпісам генерал-маёра юстыцыі.

А ці не пра калегу С. Рублеўскага была брыдота: «Чыя б кароўка мычала?»

**Хто дапусціў знявагу** журналіста К. Севярынца, які сказаў у «Народным слове» праўду аб былым Сенненскім сакратару райкома? Чаму «цярплівыя да іншадумства» не далі слова на старонках свайго выдання зняважанаму калегу?

Так, шаноўны П. Міхайлаў, «якая ні ёсць шматпартыйнасць, але яна ёсць». Ды са старонак вашай газеты не бачна, хоць ёсць яна, ёсць. А бачна з публікацый вашых аўтараў, якія вашы чытачы «з году, як памятаюць сябе» (№ 27) вось што: «Ілжэдэмакраты падвялі нас да рынку. Прыватызуюць нашу уласнасць. Але ці ўцалеюць самі ідэолагі звярынага рынку і праваднікі іх ідэй», «Каму так хочацца прыдушыць «Віцебскі рабочы»—старэйшую газету вобласці?» (№ 27), або «...хочуць знішчыць «ВР» тыя, хто ўмее разбураць, разбураць нашу эканоміку, культуру, аплёўваць гісторыю», «новыя дэмакраты, БНФ ужо ўсё адабралі ў беларускага народа, давялі яго да паўгалоднага існавання. На парозе вясна, а БНФ усе сілы ў такі складаны час аддае рэферэндуму: збірае подпісы супраць беларускага ўрада, за новыя выбары» (№ 26).

А чаго варта палітычная заява ДСПС і абласнога камітэта ПКБ ад 13 сакавіка, дзе гаворыцца пра пакорлівую большасць дэпутатаў, гатовых галасаваць за любую прапанову БНФ, у тым ліку і антынародную Канстытуцыю, дзе тут жа і давяраецца гэтаму ўраду, і выказваецца пратэст супраць рэферэндуму?

Гэты пратэст гучыць з нумара ў нумар. Няўжо ніхто інакш не думае? З газеты відаць, што не. І вы сцвярджаеце: «улада ў руках дэмакратаў». Дык чаму тады **вы не пратэстуеце супраць** дэмакрата Кулакова, яго абласнога Савета, ВС, дзе ўсё прымаецца пад націскам БНФ? Чаму не расказваеце, хто і што прыватызуе ў Віцебску. Адкуль яны родам, прыватызатары, у якіх «нечуванае па размаху накапленне капіталу?» Не хочаце чамусьці. Дык, калі вы не супраць дэмакратаў, што сёння ва ўладзе, чаго, як кажуць, «раптаць» аб міфічным знішчэнні? Мусіць, помніце, што адказаў вам пра гэта Кулакоў на сустрэчы з калектывам: **ХТО ВАС ЗНІШЧАЕ!!**

Чаму, шаноўны калега, вас абразіла метафара «ўкормлены ветэран», а не абразіла, што ён даказваў, нібы бацька Пазьняка паліцай? Чаму вы не абразіліся, калі раней «палітычныя субяседнікі» гаварылі, што сам З. Пазьняк супрацоўнічаў з немцамі? А хто пісаў, што лідэр БНФ у час наведвання Віцебска заклікаў да фізічнай расправы над камуністамі? (З. Пазьняк чытаў тую, потым крыху пазней папраўленую паласу).

«Пра адкрытую і наўмысную хлусню» сваіх калег можна было б пагаварыць больш грунтоўна, але думаю, што ў «рабочага і калгасніка хопіць розуму і сумлення разабрацца, што да чаго», якія каштоўнасці адстойваюць абедзьве газеты. Нам жа толькі парадавацца можна, бо «каманда, прыбітая да лодкі «Выбара», усё больш павялічваецца з прафесійных журналістаў накшталт Гаўрылы Полацкага. І слава свежаму ветру і хвалям перабудовы, што дапамаглі нам, першым матросам «Выбара», адшвартавацца ад вялікага камуністычнага крэйсера, дзе нават пахвальвалі некаторых з нас. Праўда, да матэрыялаў бралі тлумачэнні ва ўпраўляючага па справах абкома Дабрыяна, спасылаючыся на веданне Закона аб друку. Толькі вось чамусьці да Ельцына не ехалі за тлумачэннямі да рэпартажаў з Манежнай плошчы. Выходзіць, па сваіх жа ўдарылі карцеччу, таму і не зразумелі мы адзін аднаго. А хацелася, улічваючы рэаліі часу.

«Подла, мярзотна» ўсё, таварышы, бо навідавоку, хто заплёўваў (паліў), а хто адплёўваецца.

**Вера АДРАДЖЭНСКАЯ.**

*Пісьмы ў рэдакцыю*

## Дзень добры, шаноўная рэдакцыя!

З гарадской прэсы даволі часта чуў пра нейкія акцыі, распачатыя веруючымі ўніяцкай канфесіі. Даволі доўгі час намагаўся адшукаць уніяцкую абшчыну ў Віцебску, але марна. Ці не падскажаце мне вы, ці ёсць у Віцебску святар дзеючай грэка-каталіцкай царквы, да якога можна было б звярнуцца з мэтай прыняцця святога ахрышчэння па ўніяцкім абрадзе.

На заканчэнне хачу падзякаваць за вашу газету. Яна нібы выбяляе брудныя плямы на душы пасля знаёмства з прэсай, якая прадстаўляе шырокія слаі чартаўшчыны.

**А. ПЯТУРЫН.**

г. Віцебск.

**АД РЭДАКЦЫІ: Па ўсіх пытаннях, якія задае аўтар** пісьма, **раім звяртацца** да **старшыні ўніяцкай абшчыны Ігара Цішкіна.** Тэлефоны: 37-33-56, 4-18-57.

## Кляліся быць вернымі...

Нясцерпна холадна было ў дзень 122-ой гадавіны Ульянава—Леніна. Тым не менш, да помніка таго, хто абяцаў «навякі пабудаваць людзям шчасце», прыйшлі ветэраны і кіраўнікі ўладавых структур, ваенны аркестр граў гімн, а юныя ленінцы. пасінеўшыя ад холаду, закарчанелымі рукамі вынімалі з кішэняў гальштукі, павязвалі на шыі і кляліся быць вернымі...

Здзівіла толькі адно: усё ішло не без актыўнага ўдзелу аднаго добра вядомага ў горадзе народнага дэпутата рэспублікі. Таго самага, што выступаў супраць дэпартызацыі, а пасля перавароту выйшаў з КПСС—КПБ і галасаваў за незалежную Беларусь. Сёння зноў ён нізка схіляе галаву перад заснавальнікам партыі, ад якой адрокся, і з асалодай слухае гімн аб агульным пошуку дарог да шчасця.

У гэты час у Менску ідзе чарговая сесія і, пэўна, не хапае кворуму, каб прыняць важнае дзяржаўнае пытанне.

**На здымку:** плошча Леніна. Пасля «зары савецкай улады».

*Есть и такое мнение*

## Цветы для Ленина!

Впервые в этом году 22 апреля из-за болезни не смог лично возложить цветы к памятнику В. И. Ленина. Счастлив, что это сделали руководители города и области. Что бы мы ни говорили, Ильич—великий человек. И тысячи людей по-прежнему любят его. Спасибо тем, кто не изменил в день рождения Владимира Ильича всенародной традиции.

**П. ИВЧУК, ветеран войны и труда.**

г. Витебск.



*Письма читателей*

## Сколько у нас контор?

В 70-е годы я работала в облплане и часто приходилось слышать от чиновников: облплан «мозг» облисполкома. Но если дать правильную оценку этому «мозгу», так это в основном работа больше статистического характера, чем экономического.

Прошли годы, поменялась вывеска: Облплан переименовали в комитет по экономике. Увеличился штат работников и зарплата. А жители области оказались в таком положении, что многим приходится задумываться, как выжить.

В конце 80-х годов я «познакомилась» с другой областной конторой—социального обеспечения. И никак не могу понять и разобраться, чем занимается облсобес, какую помощь и поддержку может найти бедный пенсионер или инвалид в облсобесе? А сколько имеется в области таких ненужных областных контор с высокооплачиваемыми работниками? К вышеупомянутым двум можно прибавить облоно, облтоп, облздрав, облкомхоз, отдел цен и др. Все эти «обл» финансируются из бюджета, т. е. из наших карманов. Кто бы посмотрел, нет ли там лишних людей, которых мы кормим?

Н. КОЗЛОВА.

*Хто ёсць хто*



Ігар Цішкін—сябра Віцебскай Рады БНФ. У мінулым (80-я г. г.) старшыня клуба «Узгор'е», грамадскага аб'яднаньня, якое змагалася з уладамі за захаваньне помнікаў гісторыі і культуры Віцебска. З адраджэнскімі ідэямі, якія высьпявалі ў асяроддзі клуба, прыйшоў ён і ў Беларускі Народны Фронт. З гэтымі ж ідэямі ўдзельнічаў у веснавых выбарах 1990 г. у якасьці кандыдата ў дэпутаты рэспубліканскага парламенту. Дзякуючы падтрымцы выбаршчыкаў, з 12 прэтэндэнтаў выйшаў на другое месца па колькасці галасоў.

Зараз працуе археолагам МДП «Віцебскпраектрэстаўрацыя».

# УЧОРА ЗНОЎ АД ІМЕНІ НАРОДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ніцтва рэспублікі вяршыць наш лёс. А мэта ў іх простая. Ім лепш аддаць нас заходнім прадпрымальнікам на разграбленне. Яны нас могуць сутыкнуць ілбамі.

Спадар Пазьняк загнуў, што мы можам быць незалежнымі. Незалежнымі мы не можам быць, бо ў нас няма золата, залатога эквівалента. Сыравіна ў нас прывазная. Мы адна нацыя з рускімі і ўкраінцамі. Нас многія дзялілі раней. І цяпер ёсць Ельцыны, Шушкевічы, Краўчукі, якія дзеляць. Яны чыхалі на нас. А чаго я павінен дзяліцца, якія інтарэсы я павінен адстайваць у нацыянальнай арміі?

Больш за ўсё ў нашай дзяльбе зацікаўлены заходнія разведкі: СНД—гэта надзеі Гітлера, што збыліся. Дэмакратыя—гэта сацыялізм. Але партакраты скампраментавалі партыю, яны і сёння яе кампраментуюць. Імкнуцца да ўлады. Хопіць вам сядзець, давайце аб'ядноўвацца.

**Карэспандэнт:** Паважаны інжынер, вы, як у вока ўляпілі: не нясе дабро народу наш урад, не можа ён вырашаць наш лёс. Вы, як і папярэдняя прамоўца, прыйшлі да правільнай высновы, што трэба нейкім чынам «граміць» яго. Дакуль жа кампраментаваць нас, абдзіраць? Аб'ядноўвайцеся, хлопцы, мяняйце яго, не слухайце тых, хто гаворыць, што не трэба. Дакуль за вас будуць рашаць?!

**Т. Баркоткіна, дывановы камбінат.**

На чалавечай працы ўсе гады набівалі кішэні, вывазілі ўсё за мяжу, а для нас устройвалі розныя суботнікі, розныя рахункі. Куды гэта ішло, мы не ведаем. Але рабілі ўсё з энтузіязмам. Цяпер прадпрымальнікам стала сумна жыць у сацыялістычным грамадстве, яны не хочуць быць таварышамі, а хочуць называцца панамі. Трэба выступаць супраць гэтага.

**Карэспандэнт.** Я думаю, так! Але, ці ёсць у выказанай горычы якая логіка, якое выйсце? Калі аб'ядноўвацца, каб праз рахункі ды суботнікі даць магчымасць некаму багацець, дык прычым тут слёзы па сацыялізму? Гары ён такі гарам.

**Б. Барысаў, токар-расточнік ВА «Электравымяральнік».**

Гарбачоў—галоўны віноўнік развала нашай краіны. З першых месяцаў стала зразумела, што яго шлях не той, па якому мы пайшлі. Я гэта бачыў, як быў на 27 з'ездзе КПСС. У краіне развалілі ўсё. А што было дрэннага ў праграме ГК ЧП? Трэба выпусціць іх.

**Карэспандэнт.** Пасля выступлення токара механічнага завода А. Шталя, члена АДПБ, стала трывожна, бо яўна адчувалася, што яго прапанове шукаць выйсце ў рэферэндуме, ёсць больш канкрэтная альтэрнатыўная прапанова, якая яскрава вызначалася: граміць, ГК ЧП, расстраляць мафію і дэмакратаў (нават не вызначыўшы, хто ёсць хто).

**М. Гаранін,** член партыі Жырыноўскага, прыбыў з Рыгі.

Як убачу дэмакрата, рука цягнецца да пісталета. На штыкі трэба такіх падымаць. Поўнасцю салідарны з першай выступаючай: граміць трэба.

**Ц. Захарэнка,** былы дырэктар завода імя Кірава.

Перабудовай было задумана здрадніцтва, якога не ведала чалавецтва. Партапаратчыкі шкодзілі народу рэалізаваць заваёвы Кастрычніка...

У цэлым народ падтрымліваў путч як удасканальванне нашага грамадства па руху наперад. З самага пачатку ўсё з падачы партыйных органаў і самага Генеральнага сакратара ачарнялася і аблівалася брудам. Выхоўвалася ненавісць да рэвалюцыі, заахвочваўся распад. Наш лёс аказаўся ў руках дагматыкаў ад партыі. Распаўся Саюз, да кіраўніцтва пацягнуліся сілы, мэта якіх улада і нажыва.

Сёння зноў працоўныя Саюза прад'яўляюць свае патрабаванні да палітыкаў, і сярод іх такія: спыніцеся ў разбурэнні, спыніце балбатню аб суверэнітэтах. Большасць народа сёння не збіраецца на рэферэндуме мяняць свой урад—шыла на мыла.

**Карэспандэнт.** Выходзіць, тым самым разбуральнікам, прыхватызатарам ды суверэнітэтчыкам, як заявіў дырэктар, можна дзейнічаць і далей. Дзе логіка?

**Часнейшы, Грабушкін,** ветэраны працы.

Гаварылі аб тым, дзе падзеліся савецкія людзі, савецкія дыктары на тэлебачанні, што не могуць купіць унукам шакаладкі. «Гітлер, каб праснуўся, за развал бы паставіў Ельцыну і Гарбачову залатыя помнікі. Як гэта што шпрыцоў самі не можам нарабіць, ды і цэны такія могуць толькі п'яныя ўвесці. Судзіць трэба ўсіх, а мы рэферэндумы прыдумваем, калі сеяць час».

**Карэспандэнт.** Слава богу, збор подпісаў правялі да пасяўной, а выбары могуць быць пасля ўборкі. Так, што віціць БНФ не выходзіць. Лепш сапраўды хоць прыблізна ведаць, калі сеюць, калі жнуць.

Выхад у ветэранаў: судзіць і толькі. Думаю, што міжнародны суд над камунізмам можа сапраўды адбыцца, бо самі ветэраны патрабуюць судзіць тых, хто давёў народ да жабрацтва. Толькі не трэба па-бальшавіцку, без суда і следства.

* * *

Ад імя народа ўзяў слова дацэнт медінстытута В. Янчук. Маладому чалавеку з партыі Жырыноўскага ён растлумачыў, што ўсе тут дэмакраты, і чым больш дэмакратыі, тым лепш. Гэта, мусіць, агарошыла аматара штыкоў, бо яму стала не зразумела, на каго іх уздымаць. Але дэмакратычны ўступ навукоўца быў звернуты на галоўнае, аб чым забыліся ў ходзе эмацыянальных выступленняў рабочыя.

—Тут ніхто не гаварыў аб праекце Канстытуцыі. Вазьміце 25 арт. Уся вышэйшая адукацыя пераводзіцца на беларускую мову. Прабачце, гэта што, пераход на дэмакратычны шлях? Гэта што, дэмакраты? Закон аб мовах навязаў БНФ. Я ў Латвіі пражыў многа гадоў. Там хочаш, на рускай мове вывучай прадмет, хочаш—на латышскай. Трэба дзве дзяржаўныя мовы. У БНФ няма праграмы ні эканамічнай, ні культурнага адраджэння. Голая дэмагогія.

Ад рэферэндума нікуды не адыйдзеш. Узнікае пытанне, што нам рабіць? Удзельнічаць! Калі мы не будзем удзельнічаць, ад гэтага выйграюць толькі ініцыятары. Таму ўдзел патрэбны, але трэба сказаць «не» адстаўцы ўрада.

Калі паслухаць, як выступае Зянон Пазьняк, можна падумаць, што роўных яму няма, што ён усё бачыць скрозь зямлю. Але я на яго месцы апублікаваў бы праграму. Ды ў яго яе няма. Ёсць толькі палітычная трасканія.

**Карэспандэнт.** Шаноўны навуковец пасля прыняцця некаторых законаў у Латвіі прыехаў у Віцебск, бо лепш гаварыць аб антыдэмакратычнасці Вярхоўных Саветаў, чым вывучыць мінімум слоў з мовы таго народа, дзе даводзіцца жыць.

**Трэба ведаць,** што Закон аб мовах у Беларускай ССР прыняў Дземянцееўска-Сакалоўскі Вярхоўны Савет, а не навязаў БНФ. Яго тады не было.

**Трэба чытаць** праграмы БНФ і другіх партый па эканамічнаму і нацыянальнаму адраджэнню. Яны публікуюцца. Праграма БНФ нават прааналізавана экспертамі. Пагартайце «Народную газету».

**Навошта адцягваць** рабочых ад цывілізаванага шляху барацьбы за адстаўку ураду шляхам рэферэндуму. З іх жа выступленняў (перачытайце) бачна, што яны гатовы яго граміць. Ды і вам хто не дае вылучыць сваю кандыдатуру? Вы ж не голы дэмагог, як, па вашых словах, Зянон Пазьняк. Вы ж, мусіць, сваю праграму маеце? Дык чаму не апублікавалі, ці хаця б вусна не выказалі? Інакш выснова неабвержная: дэмагогія супраць дэмагогіі. Што, не так?

**В. Казлоўскі,** выкладчык медінстытута.

Чаму патрэбна мяняць Канстытуцыю? Хто даў права мяняць дзяржаўны лад?

**Карэспандэнт.** Сапраўды вучоныя нашы навукоўцы. Помню яшчэ мяне вучылі: на змену рабаўладальніцкаму ладу прыйшоў феадальны, на змену феадальнаму... І гэтак далей. Хто ж даў права мяняць эканамічныя фармацыі, ды і кастрычніцкую рэвалюцыю здзяйсняць, савецкую ўладу усталёўваць? А я-та думала, што гісторыя, жыццё ўносіць аб'ектыўныя змены. Быў СССР —няма яго, была БССР—няма. А Рэспубліцы Беларусь Канстытуцыя патрэбна, бо гэта—**Дзяржава**, шаноўны вучоны.

* * *

Прачыталі зварот працоўнай Масквы, зачыталі рэзалюцыі і аднагалосна, разам з журналістамі стварылі ці, хутчэй, не стварылі, нейкі каардынацыйны Савет рабочых. Увайшлі ў яго, што юрыдычна неправамоцна, не прадстаўнікі абраныя калектывамі, а з прысутных і нават непрысутных. Практычна, члены руху за сацыяльную справядлівасць і члены ПКБ. Той жа самы В. Янчук. Цяпер камуністы трыадзіныя пры той жа колькасці і якасці.

Успомнілі (напомніў Янчук) пра праект Канстытуцыі. Тады падняўся **Б. Барысаў.**

—Я не чытаў праекта Канстытуцыі,—наіўна прызнаўся ён,—хоць мне і так усё зразумела, растлумачылі Янчук і Казлоўскі. Канстытуцыя—буржуазная, антынародная, зачытаў ён, у выпадку яе прыняцця наступіць пераварот грамадскага ладу. Таму мы, рабочыя, не прымаем гэты праект.

**Карэспандэнт.** Паставіла кропку і падумала, навошта было столькі працы, каб паказаць тое, што лепш было б скрыць. Але хай чытач бачыць, хай аналізуе, адкінуўшы мае асабістыя каментарыі, ці мацнець рабочаму руху ў Віцебску, ці ёсць у яго палітычна-інтэлектуальны патэнцыял?

Яўгенія **МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**



**На здымку: Пошук шчасця для народа працягваецца.**

*Слова з крыжа маўчання*

# ЗА ШТО ТРАПЛЯЮЦЬ ЗА ВАРОТЫ?

Мусіць, праўду казаў наш славуты пісьменнік-зямляк Уладзімір Караткевіч, што беларусаў Бог надзяліў усімі шчадротамі, толькі даў ён ім неразумнае начальства: самаўпраўнае, хапуг розных, што не прызнаюць ні законаў, ні справядлівасці. І гора таму, хто ўздумаў пакрытыкаваць такое начальства, прызваць яго да сумлення. Так здарылася з Уладзімірам Фёдаравічам Жыгуловым, які доўгія гады прапрацаваў у рамонтна-будаўнічым упраўленні бытавога абслугоўвання, а цяпер— беспрацоўны.

Наважыўся ён неяк указаць на тое-сёе свайму начальніку С. С. Казыру, за што і атрымаў адразу папярэджанне: «Будзеш лезці не ў свае справы, апынешся за варотамі». Але майстар (на такой пасадзе працаваў Уладзімір Фёдаравіч) не супакоіўся, пайшоў, як камуніст, у райком партыі Чыгуначнага раёна, расказаў былому сакратару т. Барзянкову і аб грубасці, і аб выпадках злоўжыванняў-крадзяжоў у РБУ. Барзянкоў, відаць, у вуснай форме ўказаў Казыру аб недапушчальнасці вось такой яго работы. Але вынікі сталі адваротнымі. Грозны начальнік выклікаў да сябе Жыгулова і запытаў: «Ці збіраешся ты працаваць? Час знайсці іншае месца».

Да гэтага запытання Казыра падключыў выпадак, які адбыўся напярэдадні. Ездзіў Жыгулоў у камандзіроўку ў Смаленск, з заданнем справіўся і вярнуўся крыху раней. Ды ў сваякоў як раз надарылася бяда, папрасілі яго адвезці для пахавальнага стала прадукты. Заўважыў гэта начальнік: як так—у час камандзіроўкі ды дома? Без згоды прафкома Жыгулову аб'яўляецца вымова, але ён абскарджвае яе ў абкоме прафсаюза. Выехаў прадстаўнік, сабралі мясцком і рашэннем ад 18 чэрвеня 1990 года заканстатавалі: **«Начальніку РБУ С. С. Казыру ўказана на меўшыя месцы ўпушчэнні ў рабоце, а таксама прапанавана адмяніць прыказы, выдадзеныя з парушэннем працоўнага заканадаўства. Пытанні захавання заканадаўства абкомам прафсаюза ўзяты пад кантроль».**

Аднак рашэнне абкома прафсаюза нічога не мяняе. Вымова хоць і адмяняецца, але праследаванні ўзмацняюцца яшчэ больш. У гэты час Жыгулоў працуе інжынерам па тэхніцы бяспекі. Калі ж вяртаецца на сваё месца жанчына, што была ў дэкрэтным адпачынку, над Жыгуловым, замест вяртання на ранейшае месца, навісае пагроза скарачэння: маўляў, не могуць быць два інжынеры па ТБ. Калі ж і тут не праходзіць эксперымент на выжыванне з калектыву, Казыра знаходзіць прычыну заявіць аб неадпаведнасці Жыгулова займаемай пасадзе. Гэта робіцца пасля таго, як ён на аб'екце «Градзірня» саўгаса Рудакова адмаўляецца прыняць бетон нізкай якасці, які мог бы прывесці да разбурэння канструкцый, і не падпісвае дакументы аб прыёмцы. Вось тады і рыхтуецца тэрміновае прадстаўленне ад імя савета працоўнага калектыву галоўнаму інжынеру аб неадпаведнасці майстра займаемай пасадзе і яго пераатэстацыі. Але галоўны інжынер В. М. Бірук пад выпіскай з пратакола № 1 ад 30 мая 1990 года дапаўняе: **«Неабходна двухтыднёвая падрыхтоўка майстроў... Тэрміны не рэальныя. Адміністрацыі рашыць пытанне аб назначэнні адказных асоб у камісію».**

Зноў ідзе скарга ў абком прафсаюза, і зноў атэстацыю, як неправамоцную, вырашаюць адмяніць. Аднак эпапея праследаванняў не заканчваецца. Узнікае казус з афармленнем працэнтнага аб'ёма работ на будаўніцтве пральні. Жыгуловым перад водпускам было зроблена папярэдняе завышэнне. Вельмі і вельмі нязначнае. Пасля кантрольнага замеру ён падпісаў акт. Прыказ жа, на аснове якога прадпісвалася пакаранне, меў зусім іншыя лічбы. Навідавоку аказалася злоўжыванне ўладай і перавышэнне паўнамоцтваў. Зноў ад 13 лістапада за подпісам старшыні абкома прафсаюза В. Ляховіча ўказваецца: **«Прыказ № 88 у частцы пакарання штрафам выданы з парушэннем** закона, так **як адміністрацыя такім правам не карыстаецца. Т. Казыру дадзена прадпісанне аб адмене ў месячны тэрмін указанага прыказу».**

Шмат пісьмаў з прычыны розных парушэнняў адміністрацыі накіроўваў У. Жыгулоў у самыя розныя інстанцыі: райком, гарком, абком партыі, тэлеграмай звяртаўся у адрас XXXI з'езда КПБ, асабіста да У. Грыгор'ева, як да старшыні абласнога Савета і тады яшчэ дэпутата СССР. Апошні нават даў указанне размножыць заяву-скаргу Жыгулова ў органах МУС, пракуратуры, «абахээсэс», КРУ і г. д. з мэтай праверкі. Звярнуўся Жыгулоў і ў рэдакцыю «Віцебскага рабочага». Журналіст М. Конан дапамог звязацца з пракуратурай, каб пацвердзіць факты прыпісак, водпуску будматэрыялаў і іншых злоўжыванняў. Але справу чамусьці перадалі ў пракуратуру Чыгуначнага раёна, дзе яна і заглохла. Нягледзячы на тое, што фінансавыя і іншыя парушэнні мелі месца ў РБУ, аб чым сведчаць прамежкавыя праверкі і адказы, так, напрыклад, ад 27 лістапада 1991 года, ва ўзбуджэнні крымінальнай справы было безматыўна адмоўлена. Аднак факт застаўся фактам. Сумесная праверка Чыгуначнага РАУС разам з КРУ Міністэрства фінансаў БССР канстатавала: **«Па выяўленых фактах завышэння аб'ёмаў выкананых работ і расцэнак, парушэння працоўнай дысцыпліны накіравана пісьмо начальніку ўпраўлення бытавога абслугоўвання Ю. А. Галыкіну для прыняцця адпаведных мер уздзеяння да вінаватых і вяртання незаконна атрыманых грашовых сродкаў».**

Як бачна, прызнана, што былі вінаватыя ў незаконным прысваенні грашовых сродкаў.

Галоўны кантралёр-рэвізор КРУ Ю. У. Наважылаў ад 27 чэрвеня 1991 года паведамляе таксама: **Частка фактаў праверана і некаторыя з іх пацвердзіліся, аднак неабходна яшчэ правесці кантрольны замер будаўніцтва жалезабетоннага цэху. Вынікі праверкі будуць паведамлены дадаткова».** Зноў, ёсць прызнанне парушэнняў, але чамусьці няма «вынікаў дадатковай праверкі».

**«У сувязі з неабходнасцю правядзення кантрольных замераў і даследавання значнай** колькасці дакументаў,—адказвае старшыня абкома праф**саюзаў В. Ф. Ляховіч (2.06.91 г.)—тэрмін праверкі абласным Саветам працягнут».** Але ж дакуль?

І яшчэ адзін дакумент, падпісаны намеснікам начальніка ўпраўлення Б. І. Пагадаевым: **«Устаноўлена, што рамонт цеплатрасы па в. 8-я Чкалава павінна было весці РБУ, аднак яно заключыла дагавор на выкананне гэтых работ з кааператывам «Цеплатэхніка», пры гэтым устаноўлена завышэнне аб'ёмаў работ на 6.463 рублі...**

**...Начальнік РСУ т. Казыра пазычыў панелі пад гарантыйнае пісьмо аб іх вяртанні ў I кв. 1991 года БУ-80 «Промбудмантаж», гэтыя панелі ўключаны ў будаўніцтва цэха, якое будавала РБУ. Аднак панеляў у БУ-80 не было ў наяўнасці, водпуск іх РБУ не афармляўся, якіх-небудзь разлікаў за іх ці вяртанне РБУ не зроблена.**

**...былы механік т. Сугак сапраўды адвёз сваёй маці ў Нікалаеўскую вобласць машыну дошак. Дакументаў на іх водпуск не прад'яўлена. Сам Сугак скрываецца, факт праверыць не прадстаўляецца магчымым.** (Цікава, пацвердзілі, што адвёз, але няма магчымасці праверыць?!)

**...за дапушчаныя парушэнні фінансавай дысцыпліны т. Казыру аб'яўлена строгая вымова, матэрыялы праверкі будуць разгледжаны на калегіі ўпраўлення ў кастрычніку 1991 года».**

Сумныя справы. У якім толькі грамадстве можа такое быць, бо прайшоў ужо кастрычнік 1992 года. Застаўся без работы Жыгулоў, выжылі бясконцым праследаваннем. А Казыра ўсё казырае, бо мусіць ніхто не зацікаўлены, каб «вынікі праверкі былі паведамлены дадаткова». А іх, гэтых вынікаў, чакае Уладзімір Фёдаравіч, таму і піша ён ад 4 сакавіка 1992 г. пракурору Чыгуначнага раёна: **«Я лічу, што факты злоўжыванняў начальніка РБУ С. Казыры ўстаноўлены кампетэнтнымі органамі і супраць яго павінна быць узбуджана крымінальная справа. Каб дабіцца справядлівасці, буду звяртацца ва ўсе пракурорскія інстанцыі і ў рэдакцыю дэмакратычнага друку. На аснове сказанага прашу: адмяніць пастанову аб адказе ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць Казыры С. С. і аднавіць яе ўзбуджэнне».**

Наша газета падтрымлівае заяву-скаргу У. Ф. Жыгулова і просіць пракуратуру заняцца расследаваннем.

Вера АДРАДЖЭНСКАЯ.

*Актуальная проверка*

# Сколько обрата на брата

Известно, что в молочных продуктах радиоактивные металлы концентрируются (оседают) в сыворотке, или обрате. Вот почему группа проверки в составе Л. Назаренко, В. Прищепова и И. Степанова на гормолзаводе заинтересовалась результатами анализов обрата. Однако и директор Н. Брусевич, и гл. инженер В. Кулиев, и зав. лабораторией А. Филиппович в один голос заявили, что таких данных нет, поскольку обрат идет обратно—в колхозы и совхозы для поения поросят и телят. На всякий случай мы все же поинтересовались, не идет ли сыворотка на на хлебокомбинат, но нас вежливо успокоили: когда-то, мол, давно, поставляли, но теперь... боже упаси.

По итогам проверки работников гормолзавода вроде даже похвалить надо было: не было раньше лаборатории, а теперь есть, приобретены приборы. Но что-то мешало. В самой лаборатории—чуть-чуть превышен допустимый уровень радиации. Усомнились мы и в правильности заведенного порядка, когда проверка сырья на радиоактивность проводится не с колес, а только после слива поступившего молока в общие емкости. Хотя как-то и не удобно было не верить авторитетным заявлениям, мы все же решили поинтересоваться, верно ли, что хлебокомбинат ни теперь, ни с чернобыльской поры не получает с гормолзавода непроверяемой на радиоактивность сыворотки.

И вот перед нами справка о количествах молочной сыворотки, полученной с гормолзавода хлебокомбинатом. Итак, в 1990 году поступило 3200 тонн, в 1991 году—777 тонн, в январе текущего года—49,4 тонны. На документе—подпись зам. начальника планово-производственного отдела Т. Синицы.

Возникают вопросы: 1. Насколько ответственно относятся к своему долгу руководящие и контролирующие работники гормолзавода? 2. Сколько какого обрата пришлось на брата за шесть послечернобыльских лет? Первым вопросом впору заняться местным властям. Второй вопрос наиболее важен и на него частично смогла ответить экологическая контролирующая группа. С февраля сего года поступления сыворотки на хлебокомбинат прекращены. А до этого? Если с гормолзавода сыворотка шла бесконтрольная, то с организацией в 1991 году службы радиологического контроля на хлебокомбинате необходимая проверка проводилась. В отдельных случаях оперативно принимались меры (так было с сухой сывороткой, поступившей из Слуцка, а также с арахисовыми орехами и т. п.). Что касается сыворотки Витебского гормолзавода, то, к счастью, она по меньшей мере с 1991 года контролировалась в лаборатории хлебокомбината, однако приборы фиксировали лишь то, что содержание радионуклидов во всех случаях было менее 5.10.9 кюри/кг, а вот сколько именно—сия тайна велика есть, так как предельно допустимая норма и порог чувствительности имеющихся приборов в данном случае совпадают. Очевидно, необходимо приобрести более совершенные, с большей степенью точности приборы, а сам контроль сделать более жестким.

Есть в этой грустноватой истории и тайна, покрытая мраком. Какое количество радионуклидов поглотили вместе с хлебом и булочками витебляне в 1986—1990 годах? По-видимому, только медицинская статистика способна пролить свет на подобные вопросы. И все это наводит на невеселые размышления в дни шестой годовщины начала чернобыльской эры на землях белорусских.

**Л. НАЗАРЕНКО,**
**В. ПРИЩЕПОВ,**
**И. СТЕПАНОВ.**

Наступны нумар выйдзе 20 мая 1992 г.

Выбар

*УЧРЕДИТЕЛЬ:*
*Витебский городской клуб избирателей «За демократические выборы».*

**Главный редактор**
**Леонид ЦВИКА**

Художник Г. Кликушин.
Фотографии М. Михайлова.
Адрес редакции: 210601, г. Витебск, ул. Гоголя, 17, тел. 37-35-06, 37-28-44.



Текущий счет редакции № 200700962 в Витебском коммерческом банке («Виткомбанк»). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набрана и отпечатана офсетным способом в Витебской укрупненной типографии им. Коминтерна: гор. Витебск, ул. Щербакова-Набережная, 6.

Полиграфисты: **В. Корунас, Т. Халеева, Л. Дроздова, А. Каспорович, Д. Малышев, Б. Платовский.**

Номер подписан к печати 6.05.92 г. в 17.15.

Зак. 30 41 Тираж 2500.

*Цена 80 коп.*